# Гэта мы

(словы і музыка А. Мельнікава)

C G Dm Am
Калі нехта кажа «Бывай» — гэта шчэ не значыць канец,
І хаця ў канвульсіях край, рана канстатаваць смерць.
І хаця не відаць — куды, і надзея — ні на каго,
Ты паслухай — звіняць званы, гэта з намі гаворыць Бог.

Прыпеў:

Гэта — скрозь цемру прамень, гэта — вецер, што рве смугу,
Гэта — новы сонечны дзень, гэта — праз забароны рух.
Гэта — годна падняты сцяг, гэта — шыхт, што гатовы ў бой,
Гэта — крыж на тваіх плячах, гэта — людзі разам з табой.
Гэта — тысячы моцных ног, што пячатаюць цвёрды рытм.
Гэта — не яны, бачыць Бог — гэта мы! Гэта — мы!

Ты пачуеш: звіняць званы, — калі здольна пачуць душа, —
Голас продкаў з далечыні, голас, што не задушыць час,
Голас — памяць гэтай зямлі, гэтых рэчак, гэтых лясоў
Тых народаў, што тут жылі. Ты паслухай: мацнее звон!

# Магутны Божа

(музыка М. Равенскага, словы Н. Арсенневай)

Магутны Божа! Уладар сусьветаў,
Вялікіх сонцаў і сэрц малых,
Над Беларусяй, ціхай і ветлай,
Рассып праменьні свае хвалы.

Дай спор у працы, штодзённай, шэрай.
На лусту хлеба, на родны край.
Павагу, сілу і веліч веры
У нашу праўду, у прышласьць дай.

Дай урадлівасьць жытнёвым нівам,
Учынкам нашым пашлі ўмалот.
Зрабі магутнай, зрабі шчасьлівай
Краіну нашу і наш народ!

# Грай

(музыка і словы С. Міхалка)

Недзе ля ракі, дзе не мае броду Am
Шэрыя быкі танчуць карагоды Em
Ланцугі ў начы адліваюць златам F
Воран там крычыць з воўкам родным братам. Dm

Палыхае там вогнішча да неба
П’юць яны віно заядаюць хлебам
Песні ім пяюць старыя цыганкі
Б’юць капытам, б’юць, а ў небе маланка!

Гэтыя быкі, маюць сваю праўду: C
Ім не трэба сонца, цемры ім багата G
Ім вясны не трэба, ім зімы б паболей Am
Каб ты хлопец спаў на пячы ў няволе F

Прыпеў:

Грай! Шукай! У снах юнацкіх тваe мары! C
Грай! Гукай! Вясны зяленай цёплай чары! G
Грай! Спявай! Дружна песні райскай волі! Am
Грай! Грай! Гані быкоў — вярнецца доля! F

Напіліс быкі, скачуць па краіне
Топчуць ручнікі капытамі ў гліне
Скачуць па дварах, адчыняюць хаты,
Хто не пахаваўся — будзе вінаватым!

Гэтыя быкі, маюць сваю праўду:
Ім не трэба сонца, цемры ім багата
Ім вясны не трэба, ім зімы б паболей
Каб ты хлопец спаў на пячы ў няволе

Прыпеў:

# Не быць скотам

(«Ляпіс Трубяцкі», верш: Янка Купала)

Хто ты гэткі? C
— Свой, тутэйшы. C
Чаго хочаш? Am
— Долі лепшай. F
Якой долі? C
— Хлеба, солі. C
Чаго болей? Am
— Зямлі, волі. F

Прыпеў:

Хлеба, солі, C
Зямлі, волі. Am F
Хлеба, солі, C
Зямлі, волі. Am F

Дзе нарадзіўся? C
— Ў сваёй вёсцы. C
Дзе хрысціўся? Am
— Пры дарожцы. F
Чым асвенчан? C
— Кроўю, потам. C
Чым быць хочаш? Am
— Не быць скотам. F

Прыпеў:

Кроўю, потам, C
Не быць скотам. Am F
Кроўю, потам, C
Не быць скотам. Am F

Хто ты гэткі? C
— Свой, тутэйшы. C
Чаго хочаш? Am
— Долі лепшай. F
Якой долі? C
— Хлеба, солі. C
Чаго болей? Am
— Зямлі, волі. F

Прыпеў

# Вэлытай, вэлытай

(палеская, народная)

Am, C, G
Вэлытай, вэлытай пэрэпылко! — 2р.
Поглянь, поглянь у нас жыта кілько! — 2р.
А ў нас сэрпыкі золатыйі — 2р.
А нашы жэнчыкі молодыйі — 2р.
Вэлытай, вэлытай, пэрэпылко! — 2р.

# Перемен

(группа «Кино»)

Вместо тепла — зелень стекла, Dm
Вместо огня — дым, F
Из сетки календаря выхвачен день. C Dm
Красное солнце сгорает дотла, Dm
День догорает с ним F
На пылающий город падает тень. C Dm

Припев:

Перемен — требуют наши сердца. Gm F C Dm
Перемен — требуют наши глаза. Gm F C Dm
В нашем смехе и в наших слезах, Gm F
И в пульсации вен: C Dm
Перемен Gm
Мы ждем перемен F Dm

Электрический свет продолжает наш день, Dm
И коробка от спичек пуста, F
Но на кухне синим цветком горит газ. C Dm
Сигареты в руках, чай на столе — эта схема проста, Dm
И больше нет ничего, все находится в нас. F C Dm

Припев:

Мы не можем похвастаться мудростью глаз Dm
И умелыми жестами рук, F
Нам не нужно все это, чтобы друг друга понять. C Dm
Сигареты в руках, чай на столе — так замыкается круг, Dm
И вдруг нам становится страшно что—то менять. F C Dm

Припев:

# Простыя словы

(верш М. Анімпадыстава, музыка Л. Вольскага)

A, E, F#m, D
Простыя словы, простыя рэчы:
Хлеб на стале, полымя ў печы.
Гэта так проста, гэта так добра
Як з галавою залезці пад коўдру.

Прыпеў:

Простыя словы, простыя рэчы (х2)

Прыцемкам сінім зімовай парою
Ў доме бацькоўскім усе так знаема.
Есць чым сагрэцца, есць дзе схавацца
Ў доме бацькоўскім, у матчынай хаце.

Прыпеў:

Простыя словы, простыя рэчы (х2)

Ўсе так надзейна, ўсе так грунтоўна
Што тут дадаць — хіба, что нічога.
Можна жыць далей, дзень прыйдзе новы
Дабранач, паненкі! Дабранач панове!

# Купалінка

(музыка У. Тэраўскага, словы народныя)

Купалінка-купалінка, цёмная ночка,
Цёмная ночка, а дзе ж твая дочка,
Цёмная ночка, а дзе ж твая дочка.

Мая дочка у садочку ружу, ружу поліць,
Ружу, ружу поліць, белы ручкі коліць,
Ружу, ружу поліць, белы ручкі коліць.

Кветачкі рвець, кветачкі рвець,
Вяночкі звівае,
Вяночкі звівае, слёзкі пралівае,
Вяночкі звівае, слёзкі пралівае.

# А дзе ж тыя ваяры

(Музыка народная, словы Змітра Сідаровіча)

А дзе ж тыя ваяры, што са мной хадзілі ў Крым?
Ды гэй, ды гэй-гэй, во-ха-ха, што са мной хадзілі ў Крым.

А дзе ж тыя іх мячы, што з пляча ўмелі сячы?
Ды гэй, ды гэй-гэй, во-ха-ха, што з пляча ўмелі сячы.

Не адседзецца нідзе, зноў чужынец к нам ідзе.
Ды гэй, ды гэй-гэй, во-ха-ха, зноў чужынец к нам ідзе.

Лукі гнуцца ды ў дугу, дадуць рады ворагу.
Ды гэй, ды гэй-гэй, во-ха-ха, дадуць рады ворагу.

Коні капытамі б'юць, ваяроў ды панясуць.
Ды гэй, ды гэй-гэй, во-ха-ха, ваяроў ды панясуць.

Будзе будзе зноў бітва, будзе вольнаю Літва.
Ды гэй, ды гэй-гэй, во-ха-ха, будзе вольнаю Літва.

А як скончым ваяваць, будзем піці ды гуляць.
Ды гэй, ды гэй-гэй, во-ха-ха, будзем піці ды гуляць.

# Край ты мой, край…

(верш М. Анімпадыстава, музыка Л. Вольскага, «Народны альбом»)

Мы дапіць не пасьпелі да дна, h-mol D
Як раптоўна пачулі: «Вайна». A h-moll
Ты сказаў мне: «Даруй і бывай.»
І пайшоў бараніць наш край.

Прыпеў:

Край ты мой, край, G h-moll
Грай, гэйнал, грай. D A
Дай веры, дай — G h-moll
І мы пераможам. A h-moll

Мы ў шэрых мундырах
Пад шэрым крывіцкім небам
Перад навалай з Усходу
Станем мурам каменным.

Будзем стаяць непарушна,
Будзем стаяць непахісна.
З намі вера і праўда,
З намі Божая Маці.

Прыпеў:

З намі Анёл-абаронца,
Будзем стаяць бясконца,
Пакуль толькі хопіць моцы,
Пакуль толькі будзем жывы.

Прыпеў:

# Тры чарапахі

(музыка і словы Л. Вольскага, N.R.M.)

Калі раптам адчуеш камунальныя пахі, C G Am F
І жыцьцё цябе возьме ў пятлю. C G C
Зразумееш тады, што тры чарапахі C G Am F
Па-ранейшаму цягнуць зямлю. C G C

Калі выйдзеш у горад ці залезеш у горы, C G Am F
І зь людзьмі усталюеш кантакт. C G C
Зразумееш тады, што і сёньня і ўчора C G Am F
Наша месца на трох кітах. C G C

Прыпеў:

Хэй ла-ла-ла-лай, C G Am
Ты не чакай, сюрпрызаў ня будзе. F C G C
Хэй ла-ла-ла-лай, C G Am
Ты не чакай, ты не чакай. F C G C

Не было Галілея і Боба Марлея,
Не было Сальвадора Далі.
Ні Леніна, Ні Ленана, ні Карла Лінэя,
А кіты й чарапахі былі.

Прыпеў:

Хэй ла-ла-ла-лай, C G Am
Ты не чакай, сюрпрызаў ня будзе. F C G C
Хэй ла-ла-ла-лай, C G Am
Ніхто не чакае і ты не чакай F C G C

Каб любіць Беларусь, нашу мілую маму,
Трэба ў розных краях пабываць.
Зразумееш тады — пад тваімі нагамі
Тры сланы нерухома стаяць.

Прыпеў:

Хэй ла-ла-ла-лай,
Ты не чакай, сюрпрызаў ня будзе.
Хэй ла-ла-ла-лай,
Ты не чакай, ты не чакай.

# Сонца нам дапаможа

(музыка і словы Л. Вольскага, альбом «Я нарадзіўся тут»)

Над нашай зямлёю — неба. Dm
Пад нашым небам — зямля,
На нашай зямлі трава і вада, C
І дрэвы, і промні сьвятла. Dm

Нас гэта зямля нарадзіла
Яе малако мы пілі,
І ўсё, што ў жыцці дае нам сілы,
Ёсьць на нашай зямлі.

Прыпеў:

Сонца нам дапаможа, C B
Сонца нам дапаможа, C B
Яно любіць нас. Dm

Дарэмна канкістадоры
Сьпяваюць песьню вайны,
Заваяваць наша сонца і зоры
Ніколі ня змогуць яны.

Нас любіць калматае сонца,
Нас любіць месяц сівы.
І сонца і месяц дадуць
Нам моцы
Для нашае барацьбы

Прыпеў:

Мінуць у тумане стагодзьдзі,
І сталь спарахнее ўшчэнт,
А мы тут былі, і мы тут будзем,
Пакуль існуе гэты сьвет.

Прыпеў:

# Мы выйдзем шчыльнымі радамі

(верш: Макар Краўцоў, музыка: Уладзімір Тэраўскі)

Мы выйдзем шчыльнымі радамі
На вольны родны свой прастор.
Хай воля вечна будзе з намі,
А гвалту мы дамо адпор!

Няхай жыве магутны, сьмелы
Наш беларускі вольны дух.
Штандар наш бел-чырвона-белы,
Пакрый сабой народны рух.

На бой! За шчасьце і за волю
Народу слаўнага свайго!
Браты, цярпелі мы даволі,
На бой — усе да аднаго!

Імя і сілу беларуса
Няхай пачуе й убачыць той,
Хто сьмее нам нясьці прымусы
І першы выкліча на бой.

Браты, да шчасьця мы падходзім:
Хай гром грыміць яшчэ мацней!
У крывавых муках мы народзім
Жыцьцё Рэспублікі сваей!

# Муры

(музыка Л. Льяк, словы Я. Качмарскі, пераклад А. Хадановіча)

Em B7 Em

Ён быў натхнёны і малады, Em B7 Em
Іх незьлічона было. Em B7
Ён на плошчы вёў гарады Em B7 C
Зь песьняй, што блізка сьвятло. C B7 Em

І запальвалі сьвечкі яму, Em B7 Em
Плыў па-над плошчаю дым. Em B7
Ён сьпяваў: зруйнуем турму! Em B7 C
Яны сьпявалі за ім: C B7 Em

Прыпеў:

Разбуры турмы муры! Em B7 Em
Прагнеш свабоды — то бяры! B7 Em
Мур хутка рухне, рухне, рухне — Am Em
І пахавае сьвет стары! B7 Em

Ведалі словы на памяць — і сьпеў
Несьлі па вуліцах так,
Што кроў кіпела і гнеў кіпеў,
І сэрцы стукалі ў такт.

Білі ў сто тысяч далоняў — і рытм
Ворагаў біў напавал.
Ішлі на муры ва ўсім сьвеце старым...
А ён усё граў і сьпяваў.

Прыпеў:

Так паўстаў шматтысячны рух,
Воінаў цэлая рать,
Можна помнікі зносіць і брук
На камяні разьбіраць.

Кожны адчуў — прыйшоў яго час
Сілы аддаць барацьбе:
Хто ня з намі — той супраць нас!
Сьпявак быў сам па сабе.

# Гімн «Пагоня»

(верш: Максім Багдановіч
музыка: Мікола Шчаглоў-Куліковіч)

Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах,
Успомню Вострую Браму святую
І ваякаў на грозных канях.

У белай пене праносяцца коні,
Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць,
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разбіць, не спыніць, не стрымаць!

У бязмерную даль вы ляціце,
А за вамі, прад вамі — гады.
Вы за кім у пагоню спяшыце?
Дзе шляхі вашы йдуць і куды?

Мо яны, Беларусь, панясліся
За тваімі дзяцьмі наўздагон,
Што забылі цябе, адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон?

Біце ў сэрцы іх — біце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць.

Маці родная, Маці-Краіна!
Не ўсцішыцца гэтакі боль.
Ты прабач, ты прымі свайго сына,
За Цябе яму ўмерці дазволь!

Ўсё лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай збруяй далёка грымяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разьбіць, не спыніць, не стрымаць.

